С кален падымемо Айчыну нашу мілую і будзем з ёю мы, а з намі будзе Бог!
Ларыса Геніюш

# ЗМАГАР

ВЫДАНЬНЕ СЛОНІМСКАЙ РАДЫ БНФ

СЬНЕЖАНЬ 1998г. №4 На правах унутранай дакументацыі

## *Шаноўныя слонімцы!*

Слонімская Рада БНФ "Адраджэньне" віншуе ўсіх сяброў БНФ, жыхароў горада і раёна з Новым 1999 годам і Калядамі.

Жадаем усім здароўя, дабрабыту, згоды і ўзаемапавагі ў сем'ях, посьпехаў, свабоды.

# УСТУПАЙЦЕ Ў ГРАМАДЗЯНСТВА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ!

**Слонімская Рада БНФ "Адраджэньне" працягвае збор заяў аб прыёме ў грамадзянства БНР. Многія жыхары г. Слоніма і раёна цікавяцца гэтай акцыяй і задаюць некаторыя пытаньні. Хачу адказаць на гэтыя пытаньні і даць тлумачэньні.**

**Што такое БНР?**

Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) — гэта незалежная дзяржава, абвешчаная трыма Ўстаўнымі граматамі 21 лютага, 9 і 25 сакавіка 1918 года.



**Хто абвясьціў БНР?**

Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана Выканкамам Усебеларускага з'езду, які быў пераўтвораны ў Раду БНР. Усебеларускі з'езд праходзіў у сьнежні 1917 г. у Менску. У ім удзельнічалі 1872 дэлегаты, якія прадстаўлялі ўсю Беларусь. Як толькі з'езд прыняў рэзалюцыю пра стварэньне сваёй беларускай улады, бальшавікі з дапамогай зброі разагналі яго. Выканкам з'езду працягваў сваю працу ў падпольлі да 19 лютага 1918 года, калі бальшавікі мусілі ўцячы з Менску. Пасьля гэтага ён узяў уладу ў свае рукі і абвясьціў незалежную дэмакратычную дзяржаву — Беларускую Народную Рэспубліку.

**Ці была БНР калі-небудзь ліквідаваная?**

Пасьля акупацыі Беларусі бальшавікамі і палякамі ўрад БНР, прызнаны да гэтага часу васьмю краінамі сьвету, быў змушаны дзейнічаць у эміграцыі. Бесупынна працуе легітымная Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, якая праводзіць свае паседжаньні ў Амэрыцы і Эўропе. Старшыня Рады БНР у сёньняшні час — вядомая дзеячка дабрачынных чарнобыльскіх арганізацыяў, мастачка, навуковец спадарыня Івонка Сурвіла (нарадзілася ў Заходняй Беларусі).

*(Працяг на 2 стр.)*

# УСЁ НААДВАРОТ

Цяжэй і цяжэй жывецца працоўнаму чалавеку. Як ні завіхаецца на працы, а на свой мізэрны заробак не можа зьвесьці канцы з канцамі.

Людзі не могуць зразумець, што адбываецца. Зрабілі, здаецца, усё як найлепш: выбралі прэзідэнтам чалавека, які абяцаў вырашыць усе праблемы так проста і зразумела.

Прайшоў некаторы час, і што мы бачым? Адбываецца штосьці не тое, чаго чакалі. Што ні скажа наш прэзідэнт, усё атрымоўваецца наадварот.

Абяцаў запусьціць фабрыкі і заводы — запускаюцца, але як каровы перад цяленьнем. Абяцаў утаймаваць цэны, а выйшла наадварот — растуць, як на дражжах. Зойдзеш у краму, зірнеш на вітрыну, і пачынае гучаць у вушах такі родны, з беларускім акцэнтам голас: "Цены поднимаем в первый и последний раз!".

З абяцаньнем разабрацца з "жульлём" і карупцыянерамі выйшаў зусім канфуз. У турмы пасадзілі, ды не тых, каго трэба — дэманстрантаў ды палітычных апанентаў. А "жульлё" пазаймала шыкоўныя кабінеты і жыве, як у раю, у "бацькі" за пазухай.

Такіх прыкладаў можна прывесьці безьліч, але ці варта марнаваць паперу? Давайце паспрабуем зрабіць выснову. Можа, паслухаўшы "бацьку", рабіць усё наадварот? Тады ўсё стане на сваё месца.

Заклікае прэзідэнт не галасаваць за кандыдата ў прэзідэнты ці партыю — рабі наадварот. Галасуй! Бо гэтыя людзі будуць добра кіраваць краінай.

Ганіць ці зьневажае каго-небудзь, абзывае фашыстам, то знай, гэта самы сумленны чалавек, шануй яго і паважай.

Калі кажа, што мы разам з расейскімі братамі павінны пераадольваць цяжкасьці выхаду з крызісу, то думай наадварот.

*(Працяг на 2 стр.)*

# УСТУПАЙЦЕ Ў ГРАМАДЗЯНСТВА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ!

**Чаму трэба падтрымліваць БНР і набываць яе грамадзянства?**

Лукашэнка і яго атачэньне не хаваюць намераў далучыць незалежную Рэспубліку Беларусь да Расеі. А наша дзяржава не павінна зьнікнуць з карты сьвету. Адзіным законным прадстаўніком незалежнай Беларусі ў сьвеце можа застацца Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Уступіўшы ў грамадзянства БНР, мы падтрымаем незалежную БНР, і яна будзе прызнаная ўсім сьветам. Рада БНР забясьпечыць гарантыі вызваленьня нашай краіны ад зьнешніх і ўнутраных акупантаў.

З БНР — наша будучыня ў XXI стагоддзі!

Разам мы зробім нашу Бацькаўшчыну незалежнай і вольнай эўрапейскай дзяржавай, з якой ня трэба будзе эміграваць, каб шукаць на чужыне лепшых умоваў жыцьця. Яна стане дзяржавай **Беларускай,** улады якой ня будуць зьдзекавацца над нашай спадчынай, мовай, культурай ды нашымі людзьмі толькі за тое, што яны адмаўляюцца здраджваць сваёй Бацькаўшчыне.

Разам мы адродзім Беларускую Народную Рэспубліку!

**Жыве Беларусь!**

Іван БЕДКА

# РАДУЙСЯ, ЭЛЕКТАРАТ, БАЦЬКА "ПРОЩЕНИЯ" ПАПРАСІЎ



Нядаўна А. Лукашэнка на чарговым сваім тэлешоў, у каторы ўжо раз крычаў на сваіх чыноўнікаў, пагражаючы, што "разьбярэцца" зь імі. Бо яны "давялі людзей да торбы". Сам жа сказаў, што папросіць прабачэньня ў народа. Ад гэтага мне, як і кожнаму з нас, лягчэй не стане. Цэны на лекі ў аптэках ня стануць меншымі, прадукты ў крамах зноў будуць даражэць штодня. А мізэрны рост зарплаты не пасьпявае за цэнамі...

На наступны дзень пасьля абяцаньня прэзідэнта Лукашэнкі, што цэны застануцца стабільнымі, яны стабільна пайшлі ўгару. Нармальныя прадукты сталі не па кішэні простаму люду. Быў сьведкай, як пажылая жанчына, выходзячы з аптэкі, праклінала камерсантаў, што ўзьвінцілі цэны на лекі. Нібыта гэта яны вінаватыя, што медыкаменты сталі недаступнымі для пенсіянераў і маламаёмасных. А куды ж падзеліся танныя прэзідэнцкія лекі? Хіба ж яны не ў той жа аптэцы?

Нам абяцаюць высокія дзяржаўныя чыноўнікі і ўрад, што прылаўкі ў крамах ледзь ня будуць ламацца ад разнастайнага асартыменту прадуктаў харчаваньня. Што збоі з пастаўкамі асобных тавараў у продаж — вынік нерастаропнасьці гандлюючых арганізацый, якія ня здолелі своечасова завезьці іх у крамы. Да віноўных былі запісаныя і людзі, якія "стварылі нездаровы ажыятаж".

Масла і цукар прадаюцца толькі ў вызначаныя дні і то не заўсёды ("не падвезьлі яшчэ"). А везьці і няма чаго. Вось што гаворыць дырэктар Слонімскага завода сухога абястлушчанага малака М. Дмухоўскі: "Фонды на масла да канца года гандаль практычна ўжо выбраў". Можна класьці зубы на паліцу, разгавеемся толькі (як нам абяцаюць) пасьля новага году. А цяпер пост! Пасьціць карысна для здароўя, асабліва калі ў цябе вецер сьвішча ў кішэні. Аб гэтым і прэзідэнт наш гаворыць нам: "Я ўсё бачу, усё кантралюю, я ведаю сітуацыю, якая складваецца ў нашай дзяржаве".

Сымон РОШЧЫН

# УСЁ НААДВАРОТ

Каб ні гэтыя браты, жылі б мы незалежнай заможнай краінай, накшталт Фінляндыі, якой пашчасьціла пазьбегнуць абдымкаў «старшага брата». Колькі разоў за гісторыю ішоў на нас брат вайной і забіваў то трэцюю частку, а то і палавіну ўсяго насельніцтва.

Гаворыць, што не чакаюць на захадзе — значыць чакаюць! Ды не з фальшывымі пацалункамі ды абдымкамі, а з эўрапейскай культурай, сапраўднай дэмакратыяй, сучаснымі тэхналёгіямі, высокім узроўнем жыцця. Давайце ж паспрабуем рабіць усё наадварот!

Горш не будзе, чым ёсць!

Антось ГАНТАЛЬ

# ЗАЙЗДРОШЧУ НЯМЕЦКАМУ ЗЭКУ!

Вялікае ўражаньне зрабіў на мяне артыкул у адной з газэт пра жыцьцё нямецкіх зэкаў. Падумаць толькі, у колькі разоў вышэйшы ўзровень жыцьця нямецкага зэка, чымсьці ў нашага законапаслухмянага, яшчэ і працуючага на дзяржаўнай працы пенсіянера! І гэта яшчэ, калі ня браць пад увагу, што сям'я нямецкага зэка атрымоўвае грашовую дапамогу, пакуль яе "кармілец" знаходзіцца за кратамі. Я думаю, што яна большая, чымсьці мае ў турме сам зэк. Так што ляжыць сабе на нарах немец і яму не баліць галава ад думкі, што сям'я пакутуе ад голаду і нястачы...

Слоў няма, калі пра гэта думаеш! Нам і засталося толькі, што сьмяяцца, бо сьлёзаў ужо няма... А можа ужо хопіць плакаць і сьмяяцца? Ці не час задумацца над тым, у якой краіне мы жывем? Што гэта за сістэма? Што гэта за дзяржава такая, у якой мы ўсе — закладнікі і жабракі? Здаецца Бог не абдзяліў наш народ добрай зямлёй, але яна перастае нас карміць! Наша дзяржава стварыла толькі ілюзію свабоды, а на самой справе — вялікі ГУЛАГ.

Калі хто хоча трохі зарабіць чэснай працай, дык яны вымушаны пакідаць сям'ю на вялікі тэрмін і ехаць на чужыну, бо дома не заробіш на нармальнае жыцьцё сваёй сям'і. І што цікава, за мяжу едуць многія: ад простых рабочых да высокакваліфікаваных спецыялістаў.

Згадзіцеся, каб мець добрую славу, трэба добра і шмат працаваць. Дрэнная слава працы не вартая. А што сёньня на Захадзе гавораць пра Беларусь? Што яны думаюць пра наш народ? Якую славу дапамог здабыць Беларусі "народны прэзідэнт"? Дык ці не час нам зьмяніць дрэнную славу на добрую? Ці не час нам будаваць лепшае жыцьцё у вольнай краіне?! І тады мы ня будзем зайздрасьціць нямецкаму зэку...

Уладзімір БЕДНЫ

# ЯК БЫЎ УСТАНОЎЛЕНЫ СЬВЯТЫ КРЫЖ



Больш за трыццаць гадоў таму назад, працуючы настаўнікам у Дзераўноўскай школе, я быў сьведкам, як раённае начальства "давіла" на дырэктара школы, што той мірыцца, калі побач са школай стаіць крыж. Бедалага-дырэктар адбіваўся як мог, але, нарэшце, пасьля доўгіх пошукаў ахвотнікаў зьнішчыць крыж, знайшоў іх. Імі аказаліся новыя маладыя работнікі школы, якія паддаліся на ўгаворы дырэктара спілаваць крыж... Такая сітуацыя адбывалася паўсюдна на Беларусі ў той час.

І вось насталі часы, калі наш народ пачаў аднаўляць свае сьвятыні. У раёне аднавіліся амаль што ўсе разбураныя цэрквы і касьцёлы.

У 1993 годзе Слонімская Рада БНФ "Адраджэньне" прыняла рашэньне паставіць крыж на пляцоўцы былога сабора, разбуранага бальшавіцкім кіраўніцтвам горада у 1957 г. Была дамоўленасьць са сьвятаром царквы айцом Сергіем аб сумесных дзеяньнях у гэтым накірунку. Зроблены быў заказ у майстэрні камвольнай фабрыкі на выкананьне сямімятровага крыжа, праведзена аплата работ. Патрэбен быў дазвол гарвыканкама на ўстаноўку крыжа. Вось тут нас і напаткала замінка. Якіх толькі аргументаў не выстаўляла тагачаснае кіраўніцтва горада: то крыж вельмі вялікі, то "ён ня будзе ўпісвацца ў архітэктуру мясцовасьці", то "тут камунальная гаспадарка разаб'е сквер, дзе няма месца для крыжа". Тады гарадзкая Рада БНФ прымае рашэньне паставіць крыж насуперак забароне мясцовых улад.

У другой палове дня ў канцы кастрычніка быў прывезены на пляцоўку крыж, а на другі дзень сюды, да крыжа, пачалі зьбірацца дабраахвотнікі, каб яго ўстанавіць. Было вызначана месца, каб ня быў закрануты крыж пры аднаўленьні разбуранага сабора.

Не пасьпелі мы выкапаць траншэю для падмурка крыжа, як з'явілася начальства з гарвыканкама, камунгаса і загадала спыніць усякія работы. Але іх ніхто ўжо ня стаў слухаць. Людзі выконвалі сваю сьвятую справу. А прыведзены начальствам маёр міліцыі ня стаў чыніць перашкоды дружнай рабоце грамады. Да вечара крыж быў устаноўлены.

На другі дзень увесь склад Рады БНФ і айцец Сергій былі выкліканы на тэрміновае паседжаньне гарвыканкама, дзе быў учынены разнос "неслухам". Было прынята чыноўнікамі рашэньне: абавязаць айца Сергія прасіць прабачэньня ў мясцовых улад праз публікацыю ў "раёнцы" за самавольную ўстаноўку крыжа, на што айцец Сергій заўважыў членам гарвыканкама: "Я выканаю ваша рашэньне, папрашу прабачэньня, але хто будзе прасіць прабачэньня за сотні тысяч разбураных храмаў?" Адказаць на гэтую заўвагу ў начальства не знайшлося сьмеласьці. А крыж стаіць і будзе стаяць, бо ён на сьвятым месцы ад сьвятой справы.

Мікола РАКЕВІЧ

**Слонімцы!**
**З вясны 1998 года ў Слоніме выдаецца газэта мясцовай Рады БНФ «Змагар». Жадаючыя атрымоўваць нашае выданьне, зьвяртайцеся па кантактным тэлефоне 2-27-45.**

**Ты хочаш жыць у вольнай і незалежнай Беларусі?**
**Уступай у шэрагі Беларускага Народнага Фронту і змагайся за свабоду сваёй Бацькаўшчыны!**

# АБАРОНІМ СВАЕ ДЗЯРЖАЎНЫЯ СЬВЯТЫНІ

*"Бяда, што тонча, як калісьці,*
*І сёньня брата родны брат".*
*С. Грахоўскі*

Нашае геаграфічнае становішча адбіваецца трагедыяй для Беларусі, для яе народа. Хто не таптаў і не крываві ў нашу зямлю, хто не далучаў да сваіх абшараў, не мяняў нацыянальных вытокаў, ператвараючы беларусаў у "тутэйшых". Асабліва ходка русіфікацыя пайшла ў апошнія дзесяцігоддзі. Пасля рэферэндуму 1995 года, які быў праведзены па ініцыятыве прэзідэнта А.Лукашэнкі, мова карэннай нацыі пачала адкрыта выціскацца рускай мовай ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця.

Згубіўшы свае нацыянальныя сімвалы і мову, Беларусь апынулася адрэзанай ад сваёй гісторыі і часова страціла ўсякія арыенціры. У такіх умовах над беларускай нацыяй навісла пагроза асіміляцыі рускамоўным насельніцтвам і, як вынік, непазбежнасьць паглынаньня Беларусі суседняй Расійскай дзяржавай.

Сёньня мы, патрыёты Беларусі, абавязаны падняць свой голас пратэсту супраць зьнішчэння нашай мовы і нацыянальных сімвалаў, за адмену вынікаў незаконнага рэферэндуму. Нельга было выносіць на рэферэндум пытаньне аб наданьні рускай мове аднолькавага статуса з беларускай, аб устанаўленьні новых Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь.

Згодна з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г., дзяржаўнай мовай Беларусі аб'яўлена беларуская мова, а руская прызнана мовай міжнацыянальных зносін. Тым самым асноўны Закон краіны адназначна вырашыў пытаньне аб дзяржаўнай мове.

Дамініруючае становішча беларускай мовы замацоўвалася і ў Законе "Аб мовах у Беларускай ССР" ад 26 студзеня 1990 г.

Закон "Аб народным галасаваньні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь" ад 13 чэрвеня 1991 г. устанавіў, што на рэспубліканскі рэферэндум не могуць выносіцца пытаньні, якія парушаюць неад'емнае права народа Рэспублікі Беларусь на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасьць, дзяржаўныя гарантыі існаваньня беларускай нацыянальнай культуры і мовы (арт.3).

З гэтых палажэньняў Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь вынікае, што пытаньні, накіраваныя на зьніжэнне дзяржаўных гарантый існаваньня беларускай мовы, у тым ліку шляхам прыніжэньня яе ролі ў параўнаньні з іншымі мовамі, не могуць выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум. Аналагічную выснову трэба зрабіць і адносна пытаньняў аб зьмене Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага герба як пытаньняў, якія замахваюцца на неад'емнае права беларускага народа на нацыянальную дзяржаўнасьць. Калі ў Рэспубліцы Беларусь адбудзецца ўзнаўленьне асноў дэмакратыі, дзяржаўнасьці і законнасьці, тады пытаньне аб канстытуцыйнасьці рэферэндума 1995 года непазбежна стане на парадак дня. Мы павінны сёння рабіць усё, каб хутчэй гэта настала.

Веру, пройдзе час, і сьвятыні беларускага народа — Мова, Герб, Сьцяг — зноў зоймуць свае месца на п'едэстале гонару, стануць увасабленьнем беларускай дзяржаўнасьці і культуры.

Мікалай РАКЕВІЧ

# ПІКЕТ СЛОНІМСКАГА БНФ



13 сьнежня Слонімская Рада Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" правяла пікет з мэтай выказаць пратэст супраць штодзённага росту цэн і зьбядненьня народу.

Каля 15 чалавек трымалі плакаты, якія выкрывалі антынародную палітыку сёньняшніх уладаў Беларусі, у прыватнасьці, прэзідэнта А. Лукашэнкі. Сябры БНФ размаўлялі са слонімцамі, тлумачылі ім свае погляды, адказвалі на пытаньні. Пікет праводзіўся з дазволу гарвыканкама.

Б. П.

**Паважаныя аўтары! Чакаем вашых матэрыялаў. Даведкі на тэлефоне 2-27-45.**

## З АРХІВА



*Мітынг у Слоніме, арганізаваны мясцовай Радай БНФ. Лістапад 1989г.*


**ЗМАГАР**

Выданьне Слонімскай Рады БНФ.
Выходзіць з 1998 г.
Кантактныя тэлефоны:
2-27-45, 3-12-84.

Рэдактар Паўлюк ДУБІНА
Наклад 299 паасобнікаў.